Cena 60 gr. Цана 60 гр.

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 27 (175) БЕЛАСТОК, 5 ЛІПЕНЯ 1959 года ГОД IV

**3 ліпеня беларускі народ адзначае 15-ую гадавіну вызвалення сваёй сталіцы.**

**Сёння ў чарговай карэспандэнцыі з Мінска друкуем нарыс аб людзях слаўнай сталіцы БССР.**

# СУВЯЗЬ з ЛЮДЗЬМІ ДАЕ МОЦ ЧАЛАВЕКУ

Дзядзька Базылюк сядзеў за сталом і акуратна нешта выпісваў.

— Што, — спытаў я, прывітаўшыся, — мо' зноў пачалі працаваць?

— А ці ж я калі - небудзь зракаўся працы? — адказаў пытаннем дзядзька Базылюк.

— Не, але я чуў, што вы на пенсіі? — прагаварыў я збянтэжаны.

— Правільна. на пенсіі. Але ўсё ж цяжка пакінуць працу. Бач, — гаварыў ён нейк задуменна. — сувязь людзьмі дае моц чалавеку, старасць ад яго адганяе і дае яму пэўнасць, што ён яшчэ карысны ў жыцці грамадства. Таму я і баюся парваць гэтую сувязь, таму і грамадскую працу не магу зусім закінуць.

І так, слова па слове, мы разгаварыліся. Слова «разгаварыліся» мо' і не зусім тут трапнае. У сапраўднасці то я слухаў, а дзядзька Базылюк расказваў аб сваёй мінулай легальнай і нелегальнай дзейнасці.

(Працяг на стар. 2).

# ПАЗНАЁМЦЕСЯ
# Мікалай Саковіч і яго хлопцы

Цэнтральная частка Мінска пасля вызвалення і цяпер.





Першай ластаўкай, якая прынесла Мінску славу вялікага прамысловага горада, за рубяжом, быў 25-тонны «жалезны бык». Так называлі ў Кітаі магутныя самазвалы з фігуркай зубра на капоце матора. Услед за першай паявілася і іншая: трактары «Беларусь», падшыпнікі, складаныя станкі, тэлевізары, канавакапальнікі... У іх ліку і прадукцыя ММВЗ — Мінскага матавеласіпеднага завода.

ММВЗ — адзін з буйнейшых заводаў сталіцы БССР. Лік яго рабочых перавышае колькасць насельніцтва невялікага горада. А веласіпедаў завод выпусціў ужо столькі, што ўсе жыхары такой краіны, як Нарвегія, маглі б атрымаць па аднаму. Што датычыцца матацыклаў, то на іх адначасова магло б паехаць усё насельніцтва, скажам, Шчэціна.

План 1959 года мотавелазаводцы абавязаліся выканаць да 20 снежня і выпусціць звыш плана прадукцыі на 5 мільёнаў рублёў. У першых радах барацьбітоў за светлую будучыню — брыгады, якія спаборнічаюць за званне калектыва камуністычнай працы. Аб адной з такіх брыгад на ММВЗ і расказвае гэты нарыс.

...Да прадпісанню доктара токару Шычко належала вылежаць яшчэ два дні. Аднак раніцай ён аб'явіў у хаце:

— Сёння выходжу на працу.

За тыдзень Віктар і засумаваў па заводу і трохі адвык ад яго. Шум здаваўся занадта моцным, паветра — занадта цяжкім. Ды і зусім зразумела: хлопец быў яшчэ хворы. У інструментальным цэху адразу заўважылі яго:

— Хворы прыбыў. Ці не зарана?

Падыйшоўшы да станка, Шычко самлеў: дзе матрыцы? Яны ж вось тут, на тумбачцы стаялі. Цэлых 97 штук! Кожную прапусціў праз свае рукі, засталося толькі закончыць. І няма. Дзе ж яны?

— Матрыцы шукаеш? — запытаў Мікалай Саковіч, — і не шукай. Няма іх.

Віктар разгубіўся. А як жа план? А заробак? А Саковіч хітравата паглядваў на яго. Урэшце ён хлопнуў Шычко па плячу і сказаў:

— Ішоў бы ты, Віцька, дахаты. Матрыцы тыя мы за цябе дакончылі. Пасля работы заставаліся. Так што за план не хвалюйся...

Прайшло некалькі дзён. Адыйшоўшы пасля хваробы, Віктар нармальна працаваў. Падыйшоў час зарплаты. Віктар адшукаў сваё прозвішча ў ведамасці і хацеў ужо распісацца. але раптам спыніўся. Сума была на 150 рублёў больш той, на якую ён разлічваў.

Значыць, хлопцы дапамаглі не толькі план выканаць, але і зарабіць.

Вось з гэтага і пачынаецца гісторыя брыгады, якая спаборнічае за высокае званне калектыву камуністычнай працы. Усе за аднаго, адзін за ўсіх, — так думалі і дзейнічалі гэтыя хлопцы. І яны вырашылі аб'яднацца ў брыгаду. Валянцін Казлоў, Альберт Судаўцаў, Сяргей Таргоўцаў і Віктар Шычко брыгадзірам выбралі самага вопытнага і аўтарытэтнага тавырыша — Мікалая Саковіча.

З таго часу прайшло больш трох месяцаў. Тэрмін, зразумела, малы. Але ўжо можна падвесці некаторыя вынікі.

(Працяг на стар. 3).

# ДЗЕВЯТЫ ВЫПУСК

20 чэрвеня г. г. у сценах беларускага ліцэя ў Бельску адбылася радасная ўрачыстасць, якая ўжо ў гэтай школе стала традыцыйнай, — свята выпускнікоў. Гэта ўжо 9-ты выпуск Бельскага ліцэя. Да 237-мі папярэдніх выпускнікоў ліцэя далучылася 27 новых.

Па - святочнаму выглядалі доўгія калідоры ліцэя, дзе адбывалася ўрачыстасць. Зробленая ў вясёлых тонах дэкарацыя, з зялёнымі бярозкамі ў кутках, ствapaлa вясновы настрой.

Жывымі фарбамі вясны зіхацелі і аўтары ўрачыстасці — матурысты. Дзяўчаты прыйшлі ў балёвых сукенках, хлопцы ў святочных касцюмах. Па - святочнаму апранутымі былі таксама бацькі выпускнікоў, настаўнікі і запрошаныя госці.

Матуральны баль распачаўся ў 8 гадзін вечара.

У той час у іншым зале бацькоўскі камітэт зашпільваў на апошні гузік не менш важнае мерапрыемства — супольную вячэру.

Калі ўсе ўдосталь натанцаваліся, запрасілі за сталы.

Пышна выглядала матуральная вячэра. У даўжэзным зале стрункай выцягнуліся сталы, на якіх бракавала мусіць толькі птушынага малака.

Паабапал сталоў — настаўнікі, бацькі, выпускнікі і госці.

З прамовай да моладзі выступае дырэктар ліцэя, Яраслаў Кастыцэвіч. Ён гаворыць аб тых вялікіх клопатах партыі і ўрада, якія стварылі ўсе ўмовы для развіцця беларускай моладзі, і заклікае выпускнікоў, каб яны сваёй далейшай навукай і працай аддзякавалі народнай уладзе.

Яго выступленне прысутныя ўзнагароджваюць гулам апладысментаў. Асабліва сардэчна апладзіруюць выпускнікі.

Нічога дзіўнага, Яраслаў Кастыцэвіч з'яўляецца для вучняў другім бацькам.

З прывітальнымі прамовамі выступаюць таксама старшыня Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства Уладзімір Станкевіч і старшыня Прэзідыума павятовай Рады нарадовай у Бельску тав. Навакоўскі.

Урэшце ад імя выпускнікоў выступае прымус ліцэя Жэня Маскоўчык. Яна ў сардэчных, непасрэдных словах дзякуе настаўнікам за перададзеныя веды і клопаты ў час вучобы і запэўнівае прысутных, што выпускнікі не заплямяць гонару школы і апраўдаюць надзеі сваіх настаўнікаў і бацькоў. Яна падносіць дырэктару ліцэя букет кветак. Кветкі атрымалі таксама ўсе настаўнікі ліцэя.

Пасля вячэры да белага ранка працягваўся баль. Развіталіся матурысты са сваёй школай, настаўнікамі і сябрамі.

Заўтра кожны з іх пойдзе сваёй дарогай. Адны накіруюцца ва ўніверсітэты, палітэхнікі, іншыя пойдуць вучыць у вясковыя школы, але кожны панясе ў сэрцы любоў да роднай школы, якая дала ім першую пуцёўку ў жыццё.

Рыгор ЛЯСУН



Бельскі выпуск 1959 г.

Фота — Ул. Карпенюк

# ШЫРОКІМ ФРОНТАМ

Рэзервы нашай сельскай гаспадаркі значныя, — сказаў на ІІ Пленум ЦК ПАРП У. Гамулка. Мярылам гэтых рэзерваў з'яўляецца ўзровень сельскагаспадарчай прадукцыі ў краінах, у якіх глеба і кліматычныя ўмовы падобныя ці такія ж самыя, як у нас, напрыклад, у Чэхаславакіі і ГДР. Варта адзначыць, што празмерная і неабгрунтаваная розніца існуе ў нас таксама і паміж раёнамі з падобнымі эканамічнымі прыроднымі ўмовамі. Прадугледжаныя на перыяд бліжэйшых сямі год паказчыкі росту сельскагаспадарчай вытворчасці адпавядаюць магчымасцям і рэзервам развіцця сельскай гаспадаркі. Сельскагаспадарчая палітыка партыі і народнай улады за апошнія гады была накіравана на тое, каб выкарыстаць гэтыя магчымасці для забеспячэння пастаяннага росту сельскагаспадарчай вытворчасці.

Каб забяспечыць рэалізацыю пастаўленых перад сельскай гаспадаркай заданняў у 1959 — 1965 г. г., Палітбюро ЦК ПАРП прапануе наступныя мерапрыемствы:

1) Механізацыя, у сувязі з чым прапануецца змяніць паказчыкі, указаныя ў дырэктывах ІІІ З'езду партыі, наступным чынам: павялічыць у 1959 — 1965 г. г. пастаўкі трактараў з 80 тысяч штук прыкладна да 112 тысяч; пастаўкі прычапнога і іншага інвентару коштам каля 8,9 мільярдаў злотых узрастуць прыкладна да 19 мільярдаў злотых у рознічных цэнах, пастаўкі коннага інвентару складуць 9,5 мільярда злотых, г. зн. скароцяцца прыкладна на 0,9 мільярда злотых у параўнанні з першапачатковымі паказчыкамі плана. Накрэсленае павелічэнне паставак трактарнага абсталявання дазволіць механізаваць у сялянскай гаспадарцы ў 1965 годзе каля 1/3 асноўных палявых работ і зняць з іх 300 тысяч коней.

2) У галіне меліярацыі Палітбюро прапануе пашырыць праграму меліярацыйных работ у 1961 — 1965 г. г. і павялічыць крэдыт для гэтай мэты да 17 мільярдаў злотых. Гэта азначае, што капіталаўкладанні ўзрастуць у тры разы ў параўнанні з бягучай пяцігодкай. У выніку правядзення меліярацыйных работ у 1961 — 1965 гады сельская гаспадарка павінна атрымаць прырост кармоў, выражаных у сене, прыкладна 8 мільёнаў тон.

3) Сельскае будаўніцтва, на якое ў перыяд сямігодкі прызначаецца крэдыт у размеры 23,4 мільярда злотых. У 1961 — 1965 гады, як прадугледжваецца, у вёсцы будзе пабудавана 1200 тысяч жылых памяшканняў і гаспадарчых пабудоў на суму каля 40 мільярдаў злотых.

Шырокае забеспячэнне сучаснай тэхнікай малазямельных і сярэднезямельных сялян, адзначыў дакладчык, можна ажыццявіць толькі шляхам калектыўных закупаў буйных і больш дарагіх сельскагаспадарчых машын на грамадскія сродкі, а таксама шляхам сумеснага карыстання імі.

Калектыўных намаганняў сялян патрабуе таксама рэалізацыя праграмы меліярацыі і будаўніцтва. У сувязі з гэтым у вёсцы неабходна масавая, усеагульная грамадска - эканамічная арганізацыя сялян, галоўнай мэтай якой будзе мабілізацыя сялян на працу па павелічэнню і павышэнню якасці прадукцыі шляхам спалучэння індывідуальных намаганняў з узаемнай дапамогай і супрацоўніцтвам на базе накопленых сродкаў і дапамогі дзяржавы. Такой арганізацыяй павінны стаць сельскагаспадарчыя гурткі. У іх руках павінна сканцэнтравацца асноўная маса прызначаных для сялянскіх гаспадарак трактараў і машын. Яны павінны адыграць ролю арганізатара калектыўных намаганняў вёскі і грамадскіх сродкаў вытворчасці.

У. Гамулка асвяціў прынцып стварэння фонду развіцця сельскай гаспадаркі, які будзе прызначаны для ажыццяўлення калектыўных капіталаўкладанняў у вёсцы і дадзены ў распараджэнне сельскагаспадарчых гурткоў, як усеагульнай сялянскай арганізацыі. Земляробчыя вытворчыя кааператывы будуць таксама карыстацца гэтым фондам.

Дакладчык паказаў, што гэты прынцып, які павышае ролю і значэнне сельскагаспадарчых гурткоў, з'яўляецца пашырэннем рашэнняў ІІІ З'езду партыі па пытанню палітыкі партыі ў вёсцы. Грамадская сутнасць гэтых рашэнняў зводзіцца да наступнага: накіраваць вёску шырокім фронтам на шлях сацыялістычнага развіцця.

Сельскагаспадарчыя гурткі зусім не з'яўляюцца фактарам, які б супярэчыў вытворчым кааператывам.

# СУВЯЗЬ З ЛЮДЗЬМІ ДАЕ МОЦ ЧАЛАВЕКУ

(Працяг са стар. 1).

Нарадзіўся ён у вёсцы Заляшаны, Гайнаўскага павета, у сям'і малазямельнага селяніна. Калі меў 6 гадоў, памёр бацька. Усяго тады давялося перажыць пяці сіратам (у Якуба было 4 сястры) на невялікім кавалку зямлі без бацькі. На жыццё зараблялі ў багацейшых сялян. Горкі гэта заробак. У час першай сусветнай вайны 17-гадовы Якуб, як і шмат іншых «бежанцаў», апыніўся аж у Пецярбургу. Там Якуб уступае ў рады камсамола.

— Ох, і гарачы тады быў час, — успамінае дзядзька Базылюк. — — Ды і ўздым у чалавека быў такі, што калі б сказалі ісці па заданню і аддаць жыццё, дык аддаў бы, не задумваючыся.

А ўсё ж-такі на радзіму, у сваю бацькоўскую вёску — цягнула. Не ведаў яшчэ тады Якуб, што ўладу ў краіне заграбае санацыя, што працоўныя не менш, чым пры царызме будуць стагнаць пад яе прыгнётам.

Родная вёска прыняла Якуба спаленай хатай, разбуранай гаспадаркай і панскімі секвестратарамі. За што толькі Якуб не прымімаўся. Ён быў і столярам, і шаўцом, і пячніком, і трачом, а ў канцы пачаў рабіць цэглу, а ўсё ж жыць было цяжка, ды немагчыма нейк аднавіць разбураную бацькоўскую гаспадарку.

Якуб навязаў сувязь з падпольшчыкамі. Нелегальныя сходы, лістоўкі, падпольная літаратура, — усё гэта захапляла юнака. Але за ім пачала сачыць паліцыя. У 1930 годзе Якуб папаў у Беластоцкую турму.

Турма для Якуба была школай палітычнай адукацыі. Пасля выхаду з турмы Якуб Базылюк арганізуе ячэйкі КПЗБ на тэрыторыі Кляшчэлеўскага раёна. Ён таксама з'яўляецца сакратаром раённага Камітэта ў Кляшчэлях. Хутка ў раёне налічвалася ўжо 60 членаў КПЗБ і 60 членаў КСМЗБ. Гэта была не малая сіла. Таму ў Кляшчэлеўскім раёне часта паяўляліся лістоўкі, якія заклікалі сялян да барацьбы з санацыйнымі прыгнятальнікамі. У вёсках штораз адбываліся забастоўкі. І як ні сачыла



На здымку: Якуб Базылюк у сваім агародчыку. Ён вельмі любіць кветкі.

паліцыя, колькі яна ні насылала сваіх канфідэнтаў, усё ж ёй не ўдалося выкрыць сетку ячэек КПЗБ ў Кляшчэлеўскім раёне. Не ўдалося ёй і ў саміх Кляшчэлях арганізаваць «стральца», «рэзэрвістаў», ці іншых фашысцкіх арганізацый. Моцны ўплыў мелі камуністы на насельніцтва раёна. Калі ў 1935 годзе Якуба Базылюка зноў арыштавалі і пачалі катаваць у Бельскай «дэфе», яны ўсё ж-такі нічога з яго не выбілі і, не маючы канкрэтных довадаў яго дзейнасці, засудзілі толькі на 4 гады турмы. А сетка КПЗБ усё ж была не выкрытай.

За гады савецкай улады Якуб Базылюк быў намеснікам старшыні райвыканкома ў Кляшчэлях. Калі ўварваліся на нашыя землі гітлераўскія захопнікі, Якуб Базылюк вымушаны быў пайсці ў падполле ў лес.

Пасля вызвалення дзядзька Базылюк увесь вопыт сваёй рэвалюцыйнай дзейнасці ўклаў у справу ўстанаўлення народнай улады. Ён быў першым арганізатарам ППР на тэрыторыі Бельшчыны. Доўгі час быў сакратаром гміннага камітэта ППР у Кляшчэлях. А пасля займаў шэраг адказных становішч у павеце. За ахвярную працу Якуб Базылюк быў узнагароджан «Медалем дзесяцігоддзя», а ў 1958 годзе ён атрымаў вялікую дзяржаўную ўзнагароду «Камандарскі крыж ордэна адраджэння Польшчы».

— Вось так больш-менш выглядае мая аўтабіяграфія, — закончыў дзядзька Базылюк. — Ну і пара мне ўжо дадому, — заспяшаўся ён, — парадкуючы на стале паперы. — Мая старая, брат — грозная, трымае дысцыпліну, — дадаў з цеплынёй, прадміргнуўшы па-маладзецку.

— Ну што ж, гэта зусім зразумела, — разважыў ён. — Калі я аднойчы падлічыў, дык на 30 год нашага сужыцця мне з сям'ёй давялося пажыць толькі 16 гадоў, а рэшта ўсё падполле, турма. Таму яна так цяпер трымае мяне ў хаце. А я не магу сядзець бяздзейна. Вось і цяпер я старшынёй павятовага праўлення ТППР і членам праўлення аддзела БГКТ. Нельга ж сядзець дома. Зрэшты, у працы я адчуваю сябе шмат маладзейшым.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**

# СВЯТА БАЛТЫКУ

У мінулым тыдні ў Польшчы, а ў сучасны момант у Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі адзначаюцца ўрачыста Дні мора. У ГДР гэты тыдзень адзначаецца пад лозунгам «Балтык — мора міру». У гэтым відаць непасрэдны працяг ідэі заключэння пакта паміж дзяржавамі Балтыйскага басейна ў справе выключэння гэтага малога мора з магчымых ваенных дзеянняў.

Як Савецкі Саюз, так і Польшча неаднаразова высоўвалі ўжо канкрэтныя прапановы ў гэтай справе. У апошні час у шэрагу прамоў справе ўтварэння з Балтыку мірнай зоны закранаў прэм'ер Савецкага Саюза Хрушчоў.

У суме савецкія і польскія прапановы былі прыняты таксама ўрадам Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і зводзяцца яны да наступных момантаў:

Савецкі Саюз, Польшча, Германская Дэмакратычная Рэспубліка, Данія, Нарвегія, Швецыя і ФРГ абавязваюцца не праводзіць адзін супроць другога ваенных дзеянняў на Балтыйскім моры; у выпадку якога-небудзь узброенага канфлікту дзяржавы Балтыйскага басейна не дазволяць плаваць ніякім чужым ваенным караблям па водах Балтыку; караблі дзяржаў Балтыйскага басейна не будуць узброены атамнай зброяй.

Прапановы сацыялістычных дзяржаў адбіліся голасным эхам у Скандынаўскіх краінах і знайшлі там прыхільнікаў не толькі ў камуністычных колах. Газеты, набліжаныя да ўрадавых сацыял - дэмакратычных кол Нарвегіі і Даніі (нягледзячы на тое, што краіны гэтыя належаць да НАТО) звяртаюць увагу на магчымасць разрадкі напружанасці ў цэлым свеце, дзякуючы заключэнню пакта ненападзення паміж дзяржавамі Балтыйскага басейна. І толькі кансерватыўная прэса стараецца ўдаводніць, што калі Балтык будзе замкнуты для чужых караблёў, то для прыбалтыйскіх краін існавала б пагроза нападу з боку Савецкага Саюза.

Як бачым, здзіўляюча кароткую памяць маюць працаўнікі пагаднення на Балтыку. Не памятаюць яны падзей 15-гадовай даўнасці. А ў гады ж другой сусветнай вайны не хто іншы як гітлераўская Kriegsmarine патапіла некалькі сот саюзных караблёў, агульны танаж якіх вылічаецца дзесяткамі мільёнаў тон.

Сёння замест таго, каб гаварыць аб сапраўднай небяспецы, у некаторых заходніх краінах выказваецца абурэнне лозунгам, выданым у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы з прычыны адзначаючыхся там «Дзён Балтыку». А тым часам не ў ГДР, а ў ФРГ адраджаецца новы, грозны ваенны флот. Канцлер Адэнауэр, крытыкуючы нядаўна савецкі праект мірнага трактату з Германіяй, выказаў, між іншым, незадаволеннасць тым, што СССР прадбачыў пэўныя абмежаванні ў прадукцыі і ўзбраенні германскай арміі ваеннымі караблямі.

Не трэба аднак лічыць, што абурэнне і пратэсты змогуць паменшыць мірнае значэнне прапаноў сацыялістычных дзяржаў. Як праект польскага міністра А. Рапацкага ў справе дэатамізацыі Сярэдняй Еўропы знаходзіць усё больш прыхільнікаў, так і прапанова ўтварэння з Балтыку мора міру будзе, напэўна, прадметам сур'ёзных перагавораў паміж зацікаўленымі дзяржавамі.

**Уладзімір ЛАЗІНСКІ**

### ПЕРШАЯ ПТУШКА

Арцюшэўскі доўга расказваў аб сабе і сваіх спадарожніках, падрабязна апісаў кожнага і, нарэшце, змоўк.

— Што прымусіла вас парваць з групай? — запытаў генерал Губанаў.

— Не ведаю... Але, мусіць, у той дзень, калі я сустрэў дзяўчат, вясёлых, сардэчных, пабываў у вёсцы, агледзеў, як жыве народ, у душы штосьці скалынулася... Пасля гэтага мне праціўна было бачыць і Карла, і Бэна, і гэтых двух бадзяг.

Генерал націснуў на кнопку званка.

— Папрасіце таварыша Касцюкевіча.

— Слухаю! — адрапартаваў дзяжурны, і праз секунду ў кабінет увайшоў капітан Касцюкевіч.

— Пазнаеце «бадзягу»?

— Арцюшэўскі ўскочыў з крэсла.

— Дык, значыць, гэта ты? — задыхаючыся, запытаў ён, гледзячы шырока расчыненымі вачыма на статнага капітана.

— Як бачыце. Цямніць далей ні вам ні мне няма сэнсу, — усміхнуўся Касцюкевіч.

— Чаму ж вы адразу не здаліся нашым органам? — запытаў генерал.

— Баяўся... — Арцюшэўскі панура пахіліў галаву.

— Чаго баяліся?

— Кары - расстрэлу... Ды і людзей Рагулі таксама.

— Тыя двое — Карл і Бэн — не думаюць здавацца нам?

— Не, наўрад...

Генерал яшчэ раз націснуў кнопку званка.

— Адвядзіце грамадзяніна Арцюшэўскага памыцца, пераапраніце яго, пагаліце і накарміце, — загадаў ён, калі на парозе зноў з'явіўся дзяжурны.

— Слухаюся!..

Хутка Арцюшэўскі працягваў сваё апавяданне аб бадзяннях на Захадзе, аб разведачнай школе, аб сваіх трох спадарожніках. Гаварыў ён ціха, і было

**П. БАРАШАЎ і В. КІТАІН** 21)




**(Дакументальная аповесць, расказаная палкоўнікамі П. Н. Сахаравым і Нагаевым).**

па ўсяму відаць, што ўжо нічога яго не пужае і ён адкрыты да канца.

— Значыцца, у лесе засталіся двое ?— удакладніў генерал.

— Так, — адказаў Арцюшэўскі. — Карл і Бэн. Сустрэча з імі назначана на дзесятае вечарам каля Шубіна - Нёманскага канала.

— Вы пакажаце нам, дзе ваша база, дзе пахаваны Джо і схавана астатняя зброя?

— У любы час, хоць цяпер!.. — Арцюшэўскі хутка ўстаў з крэсла.

Генерал Губанаў устаў. Падняліся і ўсе астатнія, прысутнічаючыя тут удзельнікі аперацыі.

— Міхаіл Іванавіч! — звярнуўся ён да генерала Бакаева. — Я думаю, пара заканчваць?

— Так, — кіўнуў галавою другі генерал.

— А вашая думка? — звярнуўся генерал Губанаў да астатніх.

Іншай думкі не было ні ў каго. Усе даўно чакалі гэтага моманту, і вось ён настаў.

—Калі пачнем? — запытаў Сахараў генерала.

— Сёння, зараз жа, — адказаў Губанаў і адразу вылажыў план правядзення аперацыі.

Палкоўніку Сянкевічу даручалася стаць на чале групы чэкістаў, якая адправіцца разам з Арцюшэўскім у пушчу адшукаць базу групы і забраць усё шпіёнскае абсталяванне.

Палкоўніку Сахараву было загадана выехаць у Навагрудак і там адшукаць і захапіць Бэна. Зрабіць гэта трэба ў што б там ні стала да дзесятага чысла, гэта значыць да назначанай шпіёнамі сустрэчы ў пушчы, каб потым было лягчэй браць Карла, які нечакана знік і не з'яўляўся ў бухгалтара Семяненкі

— Замест Пакроўскага ў зямлянку паслаць супрацоўнікаў, можна з маладых! — прапанаваў Бакаеў. — А сам Пакроўскі павінен быць на пошуках Карла.

— Правільна, — згадзіўся Губанаў.

Групе «паляўнічых», на чале з маёрам Каратковым, трэба было неадкладна адправіцца ў пушчу, у раён Шубіна - Нёманскага канала, у раён назначанай шпіёнамі сустрэчы, разведаць падыходы да гэтага месца і арганізаваць засады для захопу Карла, а магчыма, і Бэна, калі да гэтага часу група палкоўніка Сахарава не паспее выявіць і абясшкодзіць таго ў Навагрудскім раёне.

— Я і генерал Бакаеў будзем знаходзіцца ў Налібоках, — сказаў Губанаў, — сувязь са штабам — па рацыі. Пытанні ёсць?

— Няма...

— Ну, тады пара ў дарогу! Ні пуха ні пяра! — генералы праводзілі сваіх баявых таварышаў да дзвярэй кабінета і тут жа самі пачалі збірацца ў дарогу, каб быць бліжэй да раёна прадстаячай аперацыі.

* * *

Разлучыўшыся з Фінам, Бэн накіраваўся на поўнач, да вёскі Ждановічы, туды, дзе павінны былі жыць яго матка і сястра. Ён абыходзіў бокам вёскі і хутары, паспешна, з апаскай перасякаючы паляны, і больш рухаўся лесам ці ўздоўж зарослых кустарнікам ручаёў.

І вось — знаёмыя мясціны... Ён не бачыў іх многа год. Не, не ўсё было цяпер знаёма Бэну ў роднай вёсцы. Большасць хат, калгасныя свіраны былі новымі, ды і сама вёска разраслася. Бэн схаваўся ў суседнім ляску і, толькі прычакаўшы змроку, як злодзей, прыслухоўваючыся да кожнага шораху, панадворкамі вышаў да агарода роднай хаты. Нервы яго былі напружаны.

Ён уздрыгнуў і выхапіў пісталет, калі злева пачуўся лёгкі шум. Чыясьці шэрая кошка выскачыла з-за плоту і перапуджана вытапырыла на яго вочы

— Цьфу, чорт, яшчэ дарогу перабяжыць! — вылаяўся ціха Бэн і штурхнуў кошку ботам.

(Працяг на стар. 5).

# ПАЗНАЁМЦЕСЯ

## Мікалай Саковіч і яго хлопцы

(Працяг са стар. 1).

Па - першае, цяпер брыгада штомесяц выконвае план на 130—150 працэнтаў, па - другое, палепшылася якасць прадукцыі, па - трэцяе, умацавалася працоўная дысцыпліна. У людзей паявілася многа новых рыс у характары, новых прывычак. Каб было зразумела, як усё гэта адбылося, пазнаёмімся бліжэй з членамі брыгады. Вось яны, Мікалай Саковіч і яго хлопцы...

Брыгадзір Мікалай Саковіч. 27-гадовы каржакаваты хлопец з жывымі чорнымі вачыма. У час працы Мікалай надзявае ваенную шапку з чорным аколышкам — памяць аб службе ў танкавай часці. Было гэта даўно, амаль пяць год назад. Але і цяпер Саковіч захаваў выпраўку, дысцыплінаванасць. Пасля дэмабілізацыі Мікалай на мотавелазаводзе. За гэты час ён стаў выдатным токарам, якому смела даручаюць самыя складаныя працы.

Камсамолец Мікалай Саковіч тэхнічна адукаваны рабочы. Гэта і зразумела: у яго 9-класная адукацыя. Цяпер ён рыхтуецца да паступлення ў тэхнікум. Гэта не лёгка: трэба яшчэ на будову жылога дома хадзіць. Але затое будзе свая кватэра, куды пераедзе Мікалай з жонкай і 2-гадовай Іркай. Хлопцы вырашылі паскорыць уваходзіны. Усёй брыгадай прыходзяць яны на будаўнічую пляцоўку і дапамагаюць свайму брыгадзіру.

За што паважаюць Саковіча? За ўмеласць, любоў да працы, настойлівасць, прынцыпіяльнасць, адкрытую душу. Па майстэрству ён на галаву вышэйшы за членаў сваёй брыгады. Але гэтая адлегласць скарачаецца. Мікалай імкнецца як мага больш поўна і зразумела перадаць свой вопыт, свае веды таварышам.

Камсамольцу Валянціну Казлову 25 год. Казлоў на заводзе амаль 2 гады. Але за гэты час акрамя свайго фрэзернага станка асвоіў шліфавальны, свярлільны, навучыўся слясарыць. Дарэчы Казлоў усяго 2 месяцы быў вучнем. Дапамагла дзесяцігодка і служба ў бранетанкавых войсках. А цяпер ён паступае вучыцца на завочнае аддзяленне вышэйшай навучальнай установы. Працуе ён без браку, выконваючы амаль ювелірныя аперацыі. Добры працаўнік, ён першы весяльчак і завадзіла ўсялякіх жартаў.

А гэта — Альберт Судаўцаў. Яму, як і Казлову, 25 год, аднак рабочы стаж — 12 год. Так здарылася, што прыйшлося зарабляць на жыццё змалку. Затое ў Альберта многа прафесій. Ён адрамантуе аўтамабіль і матацыкл, выканае слясарную работу, калі трэба, заменіць шафёра. А цяпер вось працуе самастойна, на такарным станку, але ўвесь час вучыцца новаму. Займаецца і дома: рыхтуецца да здачы экзаменаў за 8-ы клас. Але як да самага вялікага экзамена рыхтуецца Судаўцаў да ўступлення ў камсамол.

Сяргей Таргоўцаў, мабыць, самы франтаваты хлопец у цаху. Не ў сэнсе піжонства, а ў сэнсе падкрэсленай акуратнасці.

Пасля дзесяцігодкі камсамолец Таргоўцаў пайшоў у флот, дзе быў спецыялістам другога класа. У мінулым годзе вярнуўся бравы марак дадому. Доўга не думаў што рабіць. Рашэнне паспела хутка: мабыць спецыяльнасць і вучыцца завочна. І вось Сяргей на заводзе токарам. А ці ж вучыцца? Пакуль-не. Жонка - студэнтка ВНУ, дапамагае рыхтавацца да паступлення ў інстытут.

Таргоўцаў — удумлівы хлопец. Працуючы, ён захапляецца. Доўгія пальцы выконваць сваю справу спрытна, як быццам бы гуляючы. Дык ён жа і музыкант, мае свой акардэон.

І, нарэшце, апошні член брыгады, той самы Віктар Шычко, самы малады (18 год), але такі ж настойлівы, працалюбівы, як і яго старэйшыя таварышы. Трохі больш, чым паўгода Віктар на заводзе, а ўжо токар 3 разрада.

Шычко — спартсмен — парашутыст 2 разрада, на яго ліку 29 прыжкоў, прытым некалькі зацяжных.

Паступаючы на завод, Віктар вырашыў не парываць са спортам і вучобай. У гэтым годзе ён будзе здаваць на норму першага спартыўнага разрада і паступаць у тэхнікум. А ў камсамол ён уступіў ужо ў снежні 1958 года па рэкамендацыі Саковіча і Таргоўцава.

Вось коратка аб членах брыгады, якою кіруе Саковіч. Пачынаючы спаборніцтва за высокае званне, брыгада ўзяла абавязацельства выканаць план 1959 года да 7 лістапада, а сямігадовы план завяршыць за пяць год.

Ці стрымаюць сваё слова хлопцы? Няма сумнення. Вось глядзіце, у лютым хлопцы, яшчэ не арганізаваныя ў брыгаду, далі прадукцыі на 3000 рублёў, а ў сакавіку — ужо на 10.000, у красавіку — на 16.000! Больш чым у пяць разоў павялічылася прадукцыйнасць! За кошт чаго? Важную ролю тут адыгрывае спаборніцтва. Але і без рацыяналізацыі справа не абыйшлася.

Участак гэты апрацоўвае матрыцы для пуансонаў. Справа працаёмкая, але хлопцы яе асвоілі добра. Зменнае заданне выконвалі, не давалі браку. Але вось заводу павялічылі план выпуску матацыклаў амаль удвая. Ясна, што і матрыц спатрэбілася больш. Значыць, трэба было павялічыць колькасць людзей на ўчастку. Але брыгада вырашыла знайсці рэзервы павышэння прадукцыйнасці. Саковіч прапанаваў:

— Давайце зробім так: за кожным замацуем пэўныя індэксы матрыц. Няхай толькі ён іх апрацоўвае. Тады пераналаджваць станок прыдзецца радзей.

Так і зрабілі. Вытворчасць рэзка ўзрасла. Наступную прапанову зрабіў Таргоўцаў:

— Учора я зрабіў 15 матрыц індэкса 100 і столькі ж індэкса 72. Сёння трэба зрабіць столькі ж і заўтра. Адным словам, за тыдзень трэба зрабіць па 90 штук кожнага індэкса, а за месяц — больш чым па 370. Няхай мне адразу і дадуць столькі нарыхтовак. Я наладжу станок і буду некалькі дзён гнаць адну матрыцу.

І што ж? Высветлілася, што Таргоўцаў выканаў месячнае заданне за два тыдні. Спаборніцтва працягвалася. Цяпер наватарам выступіў Казлоў:

— Трэба расчляніць работу па аперацыях: я свярлю, ты праточваеш...

І гэта дало павышэнне выпрацоўкі. Карацей кажучы, цяпер участак у пяць разоў павялічыў прадукцыйнасць працы. Выраслі і заработкі ў членаў брыгады. У самага маладога — Шычко цяпер не бывае менш 900 рублёў, а раней атрымоўваў па 450—500 рублёў. Саковіч, як самы вопытны, зразумела, і зарабляе больш іншых — па 1400 — 1600 рублёў.

Ці варта гаварыць, што, спаборнічаючы за высокае званне, хлопцы рашуча кідаюць дрэнныя прывычкі. Ніхто з іх не п'е, не лаецца. Яшчэ і іншых яны ўтрымліваюць ад дрэнных спраў.

Сябруюць сем'і членаў брыгады. Часта яны збіраюцца разам, танцуюць, гуляюць, чытаюць вершы. Зімой не раз ходзяць разам на лыжах. А летам іншае: у лес, на рэчку. Бываюць сябры і ў тэатрах, кіно, музеях. Усё ім хочацца ведаць, усё ўбачыць.

Прагнуць жыцця гэтыя людзі, чыімі рукамі ствараецца камунізм.

Вось і ўвесь невялікі расказ аб брыгадзе Саковіча.

**В. МІХАЙЛАЎ**

# З ДУМКАЙ аб школе

Наша дзяржава і народная ўлада прысвячаюць праблемам асветы і выхавання падрастаючага пакалення ўсё большую ўвагу. З мэтай большай сувязі школы з жыццём, у свеце пастаноў III З'езду Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі, у палове 1960 года будзе скліканы Агульнапольскі педагагічны кангрэс.

Ініцыятарам склікання кангрэсу з'яўляецца Саюз польскіх настаўнікаў. Патрэба падобнага мерапрыемства аж надта відавочная. Новы змест навучання і выхавання ў школе, сціснуты рамкамі традыцыйных форм, што і з'яўляецца значнай перашкодай для далейшага развіцця школы і асветы.

Значна ўскладняе працу настаўніка і школы той факт, што да гэтага часу няма яшчэ дасканала распрацаванай праграмы навучання ў школах. Праграма, паводле якой вядзецца навучанне ў сучасны момант, значна перагружана і не заўсёды адпавядае патрэбам жыцця.

Не лепш выглядае справа і з падручнікамі. Да гэтага часу не існуе яшчэ, напрыклад, падручнік па гісторыі Польшчы.

Нярэдка сустракаюцца факты, калі выпускнікі школ працуюць у вытворчасці пад кіраўніцтвам сваіх ранейшых школьных сяброў, якія раней, з прычыны дрэнных поспехаў, пакінулі школу.

Усё гэта і стварыла неабходнасць склікання педагагічнага кангрэсу, які на аснове існуючага становішча і патрэб абмяркуе шляхі далейшай працы.

Цэнтральнымі пытаннямі кангрэсу будуць праблемы:

1) Якой павінна быць сістэма навучання, калі хочам з яе мець матор грамадскага развіцця і культуры ў Польскай Народнай Рэспубліцы.

2) Заданні і метады навучання ў сувязі з маральным і грамадскім становішчам дзяцей і моладзі ў краіне.

3) Як павінна быць зменена сістэма падрыхтоўкі настаўніцкіх кадр. Гэтае пытанне — самая набалеўшая справа.

Даклады аб галоўных і найбольш важных справах зробяць выдатныя спецыялісты і знаўцы гэтых пытанняў. У сучасны момант разгортваецца праца над зборам фактычнага матэрыялу, а таксама распрацоўка канкрэтных праграм.

Настаўнікі Беласточчыны актыўна ўключыліся ў падрыхтоўчую працу. 6 чэрвеня адбылося першае пасяджэнне Педагагічнай камісіі пры праўленні акругі ЗНП у Беластоку. Падрыхтоўчыя працы былі падзелены на асобныя секцыі. Секцыі прадыскутуюць план падрыхтоўчых прац і зоймуцца зборам і апрацоўкай фактычнага матэрыялу, які будуць прысылаць раённыя канферэнцыі настаўнікаў.

Ва ўсіх падрыхтоўчых працах будзе ўдзельнічаць шырокі грамадскі актыў.

Беластоцкае ваяводства будзе звяртаць асаблівую ўвагу на наступныя пытанні:

1. Лад і арганізацыя школ.
2. Навучанне і павышэнне кваліфікацыі настаўнікаў.
3. Прафесіянальнае навучанне.
4. Грамадская функцыя школы і настаўніка.
5. Апека над дзяцьмі і моладдзю.

Наблізіць школу да жыцця — галоўная мэта будучага педагагічнага кангрэсу.

**П. ЧАРНЯКЕВІЧ**

## Мілыя сэрцу краявіды



**Сямён Чарнак ужо 3 гады пасе авечак у Мілейчыцах.**

Фота — В. Баршчэўскі

## Матэрыялы аб Каліноўскім у музей

Як мы ўжо паведамлялі, у мястэчку Свіслачы на Гродзеншчыне арганізуецца музей вялікага беларускага рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага. Тут да 1856 года ён вучыўся ў прагімназіі.

Галоўнае Праўленне нашага Таварыства і Камітэт Будовы Дома-помніка Кастуся Каліноўскага ў Беластоку перадалі гэтаму музею камплект матэрыялаў: афішы на беларускай і польскай мовах, навуковая праца В. Кардовіча «Кастусь Каліноўскі», нумары «Нівы» з матэрыяламі аб Каліноўскім, каляндары, камплект марак для дабраахвотных грашовых складчын на Дом — помнік Кастуся Каліноўскага? (ся)

## Да членаў і сімпатыкаў БГКТ у Беластоку

Як вядома, пры Гарадскім Аддзеле Беларускага таварыства ў Беластоку існуе бібліятэка, якая ў сучасны момант налічвае ўжо каля двух тысяч экземпляраў кніжак. Цікава ведаць, што ўзнікла яна на падставе нейкіх двухсот кніжак, якія Аддзел атрымаў ад Галоўнага Праўлення БГКТ у месяцы жніўні мінулага года.

За гэты час бібліятэка павялічвала свой стан, дзякуючы бясплатным дарам для яе ад гарадскіх установ і фірм, а таксама ад асобных членаў і сімпатыкаў нашага Таварыства.

Праўленне Гарадскога Аддзела Беларускага таварыства ў Беластоку і ў далейшым звяртаецца да сваіх членаў і сімпатыкаў з просьбай ахвяраваць кніжкі для нашай бібліятэкі.

Пры гэтай бібліятэцы будзе ўтвораны асобны фонд старадаўніх беларускіх выданняў. Калі хто мае такія выданні, просім прыносіць іх у Аддзел. З увагі на іх вялікую гістарычную і навуковую вартасць уласнікі такіх старадаўніх і перадваенных заходнебеларускіх выданняў атрымаюць грашовую ўзнагароду ад Галоўнага Праўлення БГКТ.

Будуць закуплены таксама старыя навуковыя і літаратурныя выданні на польскай, рускай, украінскай ці чэшскай мовах, у якіх ідзе мова аб беларускіх справах. Адрас Аддзела — Беласток, вул. Кюры Складоўскай 7, пакой 11.

(Дом Звёнзкаў Завадовых)

# Квадрат Б-52

**(Працяг са стар. 3).**

Потым пераскочыў праз плот і рушыў да невялікай рубленай хаты. У ёй ён нарадзіўся і правёў дзяцінства. І цяпер з болем убачыў, што хата гэта даўно не ведала мужчынскіх гаспадарскіх рук. Дах яе, пакрыты зялёным мохам, у некаторых месцах паправальваўся, гаспадарскія пабудовы сталі зусім старыя, і брама кароўніка смутна вісела на адной пятлі...

Дзверы хаты былі адчынены. На працягу некалькіх цяжкіх мінут ён глядзеў у іх цёмны правал. Ці жывая матка, сястра і, галоўнае, як яны сустрэнуць яго?..

Каля парога мільганула постаць старой. Бэн адскочыў ад плота і так жа хутка выпрастаўся. «Маці, зразумела, маці!» — пазнаў ён.

І, ужо забыўшыся, што яго могуць заўважыць суседзі, падняць трывогу і схапіць, кінуўся ў хату. Ён сустрэўся з маткаю каля самага парога. Старая не пазнала яго, яна слепаватымі вачыма паглядзела на абросшага барадой чалавека і запытала глуха:

— Што госцю патрэбна?...

Бэн, як быццам бы яго душыла што, маўчаў.

Не дачакаўшыся адказу, старая падышла да стала, намацала на паліцы карабок і чыркнула запалкай, каб запаліць лямпу. Бэн хутка прайшоў у хату і асцярожна забраў у старой запалкі.

— Не трэба запальваць лямпу, мама... Гэта ж я, мама! Я — Генка Касцюк, сын ваш.

І маці пазнала сына па голасе, задрыжала і ні слова не магла прагаварыць. Яна толькі з ціхім ускліпваннем прыціснулася да яго грудзей і заплакала — ад радасці і гора.

Сын... вярнуўся сын яе, пасля стольkіх год! Яна ведала, што Генка, яе сын, служыў у немцаў у страшным атрадзе СС, ад якога цярпела ў тыя лютыя гады ўся вёска, ведала, што ён разам з немцамі ўцёк на чужыну. Колькі слёз праліла яна тады! Хто іх можа змерыць, матчыны слёзы?

З чым, адкуль прыйшоў ён цяпер і якое гора яшчэ ён прынёс у хату?..

— А дзе Насця? — запытаў Касцюк аб сястры.

— На ферме, хутка павінна прыйсці. Давай святло запалю, пагляджу на цябе, — гаварыла паспешна і ўсхвалявана маці.

— Не трэба, мама, пасядзім так! Ты раскажы, як вы тут без мяне?

— Нічога... — Старая апусцілася на лаўку каля стала, палажыўшы на калені свае вялікія, зпрацаваныя рукі. — У арцелі нічога, падымацца пачалі. А пасля вайны дык цяжка было — спалілі ж палавіну вёскі немцы, калі адыходзілі... Цяпер нічога, грошы ў хатах паявіліся. Ды цяжка, сынок, без мужыка... Хата развальваецца... цвіка прыбіць — і то бабінымі рукамі не прыб'еш. Гаспадар патрэбны. Дзякуй богу, — старая перахрысцілася радасна, — ты вось вярнуўся, цяпер на папраўку пойдзе...

Старая не дагаварыла, змоўкла і толькі праз хвіліну прамовіла.

— Зусім вялікі ты стаў. Дванаццаць год дома не быў... Дзе ж ты сядзеў? Дзе кару адбываў за немцаў? Як топячыся чалавек за саломінку, ухапіўся Касцюк за гэтае пытанне маці: ён доўга думаў над тым, як вытлумачыць, адкуль ён узяўся, дзе быў усе гэтыя гады, а маці сама падказала адказ.

— Далі мне пятнаццаць год. Працаваў у лагерах, у Якуціі, — ціха адказаў Бэн і дадаў: — Вызвалілі раней тэрміну. Цяпер усё будзе добра, маці...

Дрыжачымі рукамі старуха абняла свайго сына, але ў гэты час у сенцах пачуліся крокі. Касцюк кінуўся за печку, зацягнуў паркалёвую выліняную занавеску і прытаіўся ў цёмным і цёплым закутку, дзе пахла хлебам, варанай бульбай і аўчынаю.

— Бабка Дар'я, ты што ж гэта без агню вячэраеш? Дзе Насця? — пачуў Бэн звонкі дзявочы голас.

— На ферме дачушка... — адказала старая. — Ты праходзь, а святло я запалю зараз...

— Ды я пазней забягу, мне Насцю трэба, — адказала дзяўчына.

— Хто гэта? — запытаў Касцюк, калі нечаканая госця выйшла і ён вылез з-за печкі.

— Суседская дачка, Анюта Альхоўская. Можа, памятаеш? Бацьку яе немцы павесілі, а яна цяпер у настаўніцы выйшла...

Касцюк прамаўчаў. Ці ж мог ён не памятаць Рамана Альхоўскага, якога эсэсаўцы забілі па яго ж даносу.



**Зверху ўніз: аўтаручка — пісталет у бачным і разабраным выглядзе, бязгукавы пісталет, ампулы з ядам.**

— А вунь і Насця... — Маці прыпала да акенца. Сястра ўвайшла ў хату. У цемры яна ўбачыла незнаёмага мужчыну, спынілася ля парога. Брат і маці сустрэлі яе маўчаннем. Праз хвіліну Касцюк абхапіў худзенькія плечы сястры рукамі і ціха сказаў:

— Добры дзень, Насцечка...

**(Працяг будзе)**

# КОНКУРС

## 15-годдзя

КАБ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У ЛЯСАВАННІ УЗНАГАРОД, ТРЭБА АДКАЗАЦЬ НАЙМЕНШ НА ПАЛОВУ ПЫТАННЯЎ. ХТО АДКАЖА НА ЎСЕ 10 ПЫТАННЯЎ, ПРЫМАЕ ДВА РАЗЫ ЎДЗЕЛ У ЛЯСАВАННІ.

## УЗНАГАРОДЫ

● Настольны сервіс ● электрычнае жалязка ● мужчынская кашуля I гат. ● купон матэрыялу на сукенку ● партфель—дыпламатка ● мужчынскі плашч-даждэвік ● мясарубка ● школьны касцюм для дзяўчынкі ● 20 узнагарод пацяшэння. Якія—пакуль тайна.

**ТЭРМІН до 22. VII.**

Важная дата паштовай пячаткі

1. ЯКІ ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ АБВЯСЦІЎ ПАЎСТАННЕ НАРОДНАЙ ПОЛЬШЧЫ? КАЛІ І ДЗЕ ВЫДАНЫ?
2. ЯКІЯ ГАСПАДАРЧЫЯ ПЛАНЫ РАЗВІЦЦЯ КРАІНЫ РЭАЛІЗАВАЛА НАРОДНАЯ ПОЛЬШЧА? ЯКІ РЭАЛІЗУЕ ЗАРАЗ?
3. ГАЛОЎНЫЯ ДАСЯГНЕННІ НАРОДНАЙ УЛАДЫ.
4. КАМУ НАЛЕЖЫЦЬ КІРУЮЧАЯ РОЛЯ Ў НАШАЙ ДЗЯРЖАВЕ?
5. ЯКІ ЛАД БУДУЕ НАША КРАІНА?
6. ХТО і ДЗЕ ВЫСУНУЎ ЛОЗУНГ «1000 ШКОЛ НА 1000-ГОДДЗЕ»?
7. ЯКУЮ ЗАМЕЖНУЮ ПАЛІТЫКУ ВЯДЗЕ НАША КРАІНА? АБАВЯЗКОВА ПРЫКЛАД.
8. ЯКІЯ ТЫ ВЕДАЕШ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЦІ Ў ПОЛЬШЧЫ?
9. АБ ЧЫМ ГАВОРАЦЬ 69, 70, 71 ПАРАГРАФЫ КАНСТЫТУЦЫІ ПНР?
10. ЯКІЯ ФАКТЫ ЛІЧЫШ НЕАБВЕРЖНЫМІ ДОКАЗАМІ КЛОПАТАЎ ПАРТЫІ І ЎРАДА АБ БЕЛАРУСАХ У ПОЛЬШЧЫ?

КОНКУРС

**6 ліпеня 1415 года прыгаворам святой інквізіцыі быў спалены на кастры Ян Гус.**

# СВЯТАЯ ІНКВІЗІЦЫЯ

Інквізіцыя ад лацінскага слова «inquisitio» (росыск) як судова - паліцэйскі орган была створана ў XIII стагоддзі рымскім папам Інакенціем III для барацьбы з т. зв. «ерэсямі» і для падаўлення вольналюбівай думкі. Інквізіцыя была незалежнай ад мясцовых судоў і сваёй дзейнасцю наводзіла жах на цэлыя мясцовасці. Гінулі людзі зусім невінаватыя. Даволі было звычайнага даносу, каб спаліць чалавека на кастры. Спаленне на кастры адбывалася, каб, згодна з царкоўнай заявай, «не праліваць крыві». Адзіным спосабам для абвінавачанага пазбегчы кары смерцю было прызнацца ва ўсім, што закідалася, ці то было праўдай ці не праўдай. У выпадку прызнання абвінавачанага замест таго, каб спаліць, саджалі на доўгія гады ў турму, а ўсю яго маёмасць царква забірала сабе.

Ахвярамі інквізіцыі ў Італіі былі такія вядныя вучоныя, як Джардана Бруна — астраном, які за свае навуковыя погляды (цвярдзіў за Капернікам, што не Сонца кружыцца вакол Зямлі, а наадварот — Зямля вакол Сонца) быў абвінавачаны ў ерэсі і спалены на кастры ў 1600 годзе, і яго вучань Люцыліо Ваніні. Праследваўся Галілей.

Найвышэйшага развіцця інквізіцыя дасягнула ў Іспаніі, дзе мела ўсебаковую падтрымку караля. Асаблівай зверскасцю выдзяляліся тут інквізітары Торквемада ў канцы XV стагоддзя і Зіменес дэ Сіснерос у пач. XVI стагоддзя. За час ад 1481 да 1508 г. г. іспанская інквізіцыя спаліла больш 30-ці тысяч асоб і 290 тысяч кінула ў турмы.

Масавае вынішчэнне цэлых мясцовасцей прывяло да таго, што з другой паловы XVI стагоддзя Іспанія занапала гаспадарча і культурна.

Дзейнасць інквізіцыі выклікала незадавальненне, бунты і паўстанні ў паасобных краінах. Адным з вельмі важных відаў супрацьдзеяння папскай уладзе ў XIV і XV стагоддзях была рэфармацыя. Відным рэфарматарам у Англіі быў Віклеф, у Францыі — Кальвін, у Германіі — Лютэр, у Чэхаславакіі — Ян Гус.

Гус быў выдатным праваднікам чэшскай рэфармацыі XV стагоддзя. Быў ён чалавекам высокаадукаваным. Ад 1403 года быў рэктарам Пражскага універсітэта. Выступаў супраць многіх дагматаў каталіцкай царквы, а перш за ўсё супраць багацця царквы і манастыроў, якія ўзбагачаліся праз інквізіцыю (дамініканцы і францысканцы). Гус прапаведваў «евангельскую прастату» і роўнасць паміж людзьмі. Вёў таксама дзейнасць, накіраваную на змяншэнне значэння немцаў у жыцці чэшскага народа. Гус жадаў сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення чэшскага народа. Гэтым ён здабыў сабе шырокую папулярнасць і шмат прыхільнікаў. Каталіцкае духавенства трацілa аўтарытэт. І таму яно пачало барацьбу супраць Гуса.

У канцы 1414 года ў Канстанце быў скліканы сабор, куды быў запрошаны і Гус. Атрымаўшы абаронную грамату імператара, якая гарантавала яму поўную бяспеку, Гус паехаў на сабор. На саборы яго абвінавацілі ў ерэсі і па-здрадніцку схапілі і кінулі ў турму, закаваўшы ў кайданы. Сабор дамагаўся, каб Гус адрокся ад сваіх поглядаў, але той быў цвёрды. 6 ліпеня 1415 года Гус з гонарам прыняў смерць на кастры. На кастры былі спалены і яго бліжэйшыя сябры і шмат прыхільнікаў.

Смерць Гуса выклікала ў чэхаславацкім грамадстве хвалю вялікага абурэння, пачаліся вялікія народныя бунты супраць свецкіх і духоўных феадалаў. Гэтыя бунты перарадзіліся ў так званыя «гусіцкія войны». Але гэта ўжо асобная тэма.

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

### ПАЖАР У ПАЖАРНІКАЎ

Пажарнікі ў Клевертале (штат Караліна) засталіся бяздомнымі. Іх дэпо згарэла да фундаменту. Хоць раз агонь адпомсціў сваім смяротэльным ворагам.

### САБАКА ПРЫ ТЭЛЕФОННАЙ ТРУБЦЫ

— Калі я званіў да сваёй сястры, нехта падняў тэлефонную трубку, але замест голасу я пачуў толькі стогн і жаласлівы піск. Я зараз жа туды паехаў. Але ніхто не адчыняе дзвярэй. Мусіць, здарылася нейкае няшчасце.

Так гаварыў у паліцыі ў Вене ўсхваляваны чалавек.

Паліцыя зараз жа паехала на месца. На званок адказаў толькі брэх сабакі. Паліцыя паклікала пажарную каманду. Пажарнікі па драбіне праз акно ўлезлі ў памяшканне, але там нікога не было.

Справа выяснілася, калі вярнулася з горада гаспадыня. Аказалася, што сабака быў прывучаны здымаць тэлефонную трубку і клікаць гаспадыню, калі хто званіў па тэлефону. Сабака і ў часе адсутнасці гаспадыні падняў трубку і піскам паклікаў гаспадыню, што так спалохала яе брата.

### ПУНКТУАЛЬНАСЦЬ УРАТАВАЛА ЖЫЦЦЁ

Трыццаць год прыходзіў на працу рахункавод Кноўлі з горада Дандзі (Швецыя) з такой пунктуальнасцю, што ніхто з яго супрацоўнікаў не памятаў, каб ён спазніўся хоць на адну мінуту. Таму, калі аднойчы ён не прышоў на час на працу, занепакоеныя таварышы зараз жа паехалі да яго, прадчуваючы штосьці нядобрае. Яны прыбылі ў час. Кноўлі знаходзіўся ў непрытомным стане. Ён затруўся газам, які даходзіў праз пашкоджаную інсталяцыю. Шыбкія меры, прадпрынятыя яго таварышамі, вярнулі яго да жыцця.

### НАЙСТАРЭЙШЫ АЛЬПІНІСТ

83-гадовы Рыд з Новай Зеландыі вырашыў выканаць амбітны намер: здабыць другі па вышыні шчыт гары ў Новай Зеландыі — Рапэгу. Першая спроба дзесяць месяцаў таму назад не ўдалася. Цяпер ён дасягнуў сваёй мэты.

— Я думаю, знойдуцца неўзабаве яшчэ старшыя за мяне, якім удасца тое самае, — заявіў ён пасля сваёй перамогі.

### АДПОМСЦІЛІ

Кіраўніцтва фабрыкі радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў у Галандыі забараніла рабочым курыць у памяшканні фабрыкі. Яно развесіла ўсюды на тэрыторыі фабрыкі лозунгі, якія гаварылі аб шкоднасці курэння для здароўя. А праз некалькі дзён пасля знайшлі рабочыя пры сваіх варштатах адозвы, у якіх даказвалася, наколькі шкодныя для вачэй, вушэй і самапачуцця радыёапараты і тэлевізары.

